Газета заснавана ў 1931 годзе. Аднаўлена ў 1999 годзе.



# Голас Пружаны

№ 3 (19)
Чацвер, 25 студзеня 2001 года

Штотыднёвая незалежная грамадска-палітычная газета

Кошт свабодны

2 старонка




3 старонка ЕСТЬ ЛИ У ВАС ДОМА небольшой "Чернобыль"?

4 старонка КРЫША ПОЕХАЛА! + КРОССВОРД

## НАВІНЫ

Міністэрства абароны перадасць Цэнтральнаму аэраклубу тры спісаных самалёты і адзін верталёт.

Кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў заяўляе аб незаконнасці антыпрафсаюзных дзеянняў, што рыхтуюцца ўладамі.

Амаль 30 тысяч кіламетраў дарог Беларусі эксплатуецца з пратэрмінаваным тэрмінам капрамонту.

Дэлегацыя апазіцыі адправілася ў Страсбург для ўдзелу ў паседжанні палітычнага камітэта ПАСЕ

Па выніках 2000 года на дарогах агульнага карыстання Беларусі зафіксавана зніжэнне колькасці ДТЗ.

У Беларусі распрацаваны праект закона аб інфармацыйнай бяспецы.

На мінулым тыдні мытнікі канфіскавалі ў парушальнікаў больш за 42 тысячы долараў ЗША.

За першыя два тыдні студзеня рост спажывецкіх цэн ў Беларусі склаў 2,3 працэнта.

Публікацыя заключэння аб хваробе Аляксандра Лукашэнкі выклікала невераГодны водгук у чытачоў, заяўляе рэдактар "Нашай Свабоды" Павел Жук.

Фінансавай міліцыяй затрыманы намеснік генеральнага дырэктара і галоўны інжэнер магілёўскага абласнога аб'яднання "МЯСАМАЛПРАМ"

У Мінску адкрылася першая начлежка для бяздомных.

Малпа стала прычынай спынення руху цягнікоў на другой лініі Мінскага метрапалітэна.

Каардынатар праектаў ТАСІС абмяркуе ў Брэсце пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай праектаў па прыгранічнаму супрацоўніцтву.

Арганізацыя "Еўрапейскі Пісменніцкі Парламент" прапанавала Васілю Быкаву правесці бліжэйшы год у Франкфурце.

Дзяржсакратар саюзнай дзяржавы П. Барадзіна будзе знаходзіцца ў Нью - Йорскай турме як мінімум тыдзень.

73 працэнты экспертаў лічаць, што выбары Прэзідэнта Беларусі ў 2001 годзе не будуць свабоднымі і справядлівымі.

Брэская абласная друкарня адмовілася друкаваць першы нумар газеты "Свабодная Зона".

Уведзенне на тэрыторыі Беларусі расійскага рубля магчыма толькі пасля змянення канстытуцыі, лічаць у Нацбанку.

***БелПАН***

## Талоны на прадукты

У мясцовай прэсе ўжо паведамлялася, як арыгінальна РайПО -"Саюз" часам збывае заляжалыя ў магазінах тавары. Тады кожны работнік гандлю павінен быў у дабраахвотна-прымусовым парадку купіць гэты тавар. Адзін раз выручалі нарыхтоўчую кантору, набываючы ў іх падгнiўшыя памідоры, затым быў Камбінат кааператыўнаў прамысловасці. Ён "ашчасліву" нас прыпсаванымі макаронамі.

І вась, зноў работнікам гандлю даводзіцца выручаць усё той жа камбінат кааператыўнай прамысловасці. Спосаб вельмі арыгінальны.

Прадаўцам выдаецца талон на 2000 руб., а бухгалтэрыі і адміністрацыі на 4000 руб.(адпаведна акладам і заробкам)

На палавіну сумы талона патрэбна купіць тавар, тэрмін захоўвання якога ўжо скончыўся. І асартымент такой прадукцыі багаты. Гэта макаронныя вырабы, пячэнне, цукеркі.

Толькі непадумайце, што гэта гуманітарная дапамога ў дадатак да зарплаты. Названая вышэй сума вылічваецца з заробку, які складае 25-30 тыс. руб.

Людзі злуюцца. Па якому праву хтосьці распараджаецца іх бюджэтам?

А калі паспрабуеш адмовіцца, то можаш адразу залічваць сябе ў "чорны" спіс да дырэктара"Гандлёвыга цэнтра", ці яшчэ да каго. А што бывае ў такім выпадку - прадаўцы ведаюць. Як мінімум направяць на "перавыхаванне" працаваць ў прадуктовым магазіне, або проста - звычайная апала і няміласць.

Выхад адзін: узяць талон і ісці ў магазін. Толькі ці выхад гэта?

Можа "Голас Пружаны" дапаможа адказаць, хто стаіць за гатай талоннай сістэмай і як доўга нам ёй праціўстаяць?

***А.Г.***

## Пісьмы чытачоў

## БЕСПЕРСПЕКТЫЎНЫЯ?



Паважаная рэдакцыя, пішуць вам жыхары в.Бузуны.

Наша вёсачка маленькая (каля 20 хат), кажуць, бесперспектыўная. Засталіся тут амаль адны пенсіянеры, але ж і нам трэба неяк жыць. Няма ў нас ні бані, ні клуба. Пазачыняліся. Да мінулага лета працаваў магазін. Пасля таго, як яго нехта абакраў - і магазіна нестала. Прыязджае два разы на тыдзень аўталаўка, але пакуль яе дачакаешся! То раней прыедзе, то пазней. Нам, старым, часам і недабегчы да яе. Да гораду сем кіламетраў. Аўтобус, вядома, не ходзіць. Надрукуйце, калі ласка наша пісьмо. Можа яго прачытае начальнік, ад якога залежыць адкрыццё магазіна ў нашай вёсцы.

***Вельмі ўдзячныя жыхары в. Бузуны.***

## З 50-ГОДДЗЕМ ВІНШУЕМ ЮБІЛЯРА Васіля Іванавіча Курачынскага



Жадаем моцнага здароўя, вялікага чалавечага шчасця, невычэрпнай жыццёвай энергіі, творчых і працоўных поспехаў.
Рэдакцыя газеты "Голас Пружаны",
Тэатр танца "Ойра"

## Прагноз развіцця эканамічнай сітуацыі у краіне

Пачатак года і стагоддзя разам з доўгімі святамі адсунулі на другі ці нават на трэці план прагнозы развіцця эканамічнай сітуацыі ў краіне ў бягучым годзе. І калі на бліжэйшую перспектыву нешта пэўнае можна сказаць з большай або меншай упэўнасцю, то на канец года зрабіць падобнае, наўрад ці нехта рашыцца. Пытанне нават не ў тым, што бягучы год - год прэзідэнцкіх выбараў, што безумоўна будзе вызначаць сітуацыю на фінансавым рынку. Без папулізму не абыдзецца ніводны кандыдат у прэзідэнты краіны. Пра рэальную ж цану перадвыбарных абяцанкаў улады, насельніцтва даведаецца толькі к верасню, калі ў 2 разы вырастуць цэны і ў 3 разы падаражаюць камунальныя паслугі.

Хутчэй, сітуацыю будуць вызначаць агульнасусветныя тэндэнцыі развіцця эканомікі і, перш за ўсё, сітуацыя ў Расіі, без аглядкі на стан якой мы не можам жыць ужо больш за шэсць год. Адсутнасць кардынальных рэформаў ва ўласнай эканоміцы ўжо даўно нікога не здзіўляе, а вось іх тармажэнне ў Расіі разам з падзеннем сусветных цэнаў на нафту прывядзе да спаду эканомікі ва ўсёй СНД, у тым ліку, і ў нас. Адсутнасць дадатковых валютных паступленняў не дазволіць Расіі і далей дапамагаць беларускай эканоміцы крэдытнымі ўліваннямі. Што прывядзе да поўнай стагнацыі нашай эканомікі.

Прагноз на год - чаканне непазбежнага далейшага пагаршэння стану насельніцтва, і праславутыя абяцанні 100 долараў заработнай платы кожнаму работніку бюджэтнай сферы не выратуюць сітуацыю, таму што за ўсе гады працягу сацыялістычнага гаспадарання улады давялі краіну да фактычнай катастрофы. Дарагавізну і беспрацоўе ў якасці шокавай тэрапіі можна было б вытрымаць нашаму насельніцтву ў спадзяванні на лепшае будучае. Але крэдыт даверу ўладзе згублены незваротна.

Цяпер пра рэаліі. Прагноз росту курса долара зрабіць даволі проста, таму што ўжо з першых дзён работы валютнай біржы, мы маем наяўнасць нездавальняючага попыту на валюту. Нацыянальны банк спрабуе стрымаць рост каціровак па ўзгодненым з вярхамі сцынарыю, разлічваючы дапускаць штомесячную дэвальвацыю на 30-40 руб., і давёўшы да 1600 руб. за долар на канец года. Але яму гэта ўдаецца пакуль толькі дзякуючы прадстаўленым Расіяй крэдытам. Самы малы перабой са стрыманнем курсу - і ўсе спробы ўтрымаць адзіны курс, скончыцца правалам. Інфляцыйныя чаканні і выдачы бяздонных грошай на пасяўную змятуць усе кардоны на шляху росту долара. Наяўнасць жа множнасці курсаў стане апошняй кропкай для спынення ўсякіх перамоў не толькі з МВФ, але і з Расіяй, і тады ўжо не 1600 руб. за долар, а ўсе 2000-2500 зробіцца рэальнасцю.

Але і аддавацца глыбокаму песімізму не варта. Курс наяўнага долара у абменных пунктах пакуль часова затармазіў на адзнацы 1235 руб., на цянявым рынку прадаюць даражэй. Але асаблівых перспектываў да яго нястрымнага скачку, быццам, пакуль і няма. Мінімальную заработную плату пакуль не падымаюць да сакавіка-красавіка, а абяцаных 100 долараў чакаюцца к жніўню. Адзінае, што можа пахіснуць тэндэнцыю павольнай дэвальвацыі беларускай валюты, - якія-небудзь сур'ёзныя праблемы эканомікі. Аднак, у гэтым годзе ўвесь чыноўнічы апарат пастаўлены на варту інтарэсаў улады, як ніколі, і чакаць ад яго грубых пракалаў не даводзіцца.Ёсць толькі вялізны адтэрміраваны попыт насельніцтва на валюту, калі фізічныя асобы размясцілі свае зберажэнні ў банках пад працэнты ў надзеі падзарабіць і потым прыкупіць баксаў. Але і банкіраў у гэтым годзе будуць усімі сіламі прымушаць утрымліваць стаўку працэнтаў вышэй росту інфляцыі, і магчыма росту курсу. Пра іх жаданне пры гэтым і пытацца ніхто не будзе - пад казырок і ўперад. Таму беларускія рублі могуць у гэтым годзе, па крайняй меры у яго першай палове, казацца больш прывабнымі сродкамі зберажэнняў, чым больш прывычныя ў гэтай ролі долары.

***А. М.***
***г.Пружаны***

НА КОНСУЛЬТАЦИИ У ПСИХОЛОГА

# Вокруг все такие нервные

Марина Шевченко

(ПРОДОЛЖЕНИЕ)



Ещё одной причиной повышенной раздражительности является желание снять накопившееся раздражение. Каждый из нас практически ежедневно сталкивается с массой проблем, которые так или иначе вызывают внутреннее напряжение. Носить его в себе очень сложно. Напряжение ищет выхода у всех по разному. У кого-то оно находит слабое звено внутри организма, и тогда всё заканчивается язвой желудка, высоким давлением, инсультом, инфарктом. У других оно прорывается наружу. Но, как правило, не в том месте и не в тот час, где и когда возникло. Чаще всего его несут в собственный дом и выливают на того, кто позволяет это делать.

Как же быть супругам в таких ситуациях?

- Наилучший выход - научить партнёра (или научиться самому) снимать напряжение там, где оно возникает. Вас несправедливо обидели на работе? Не копите обиду, не тащите её домой, а наберитесь смелости и отреагируйте тут же, на месте. Очень важно не скандалить, а научиться постоять за себя, отстаивать своё "Я".

- Если вашему партнёру не всегда удаётся справиться с раздражением "по месту возникновения", отнеситесь к этому с пониманием. Подставьтесь (намеренно), если вы видите, что это просто необходимо близкому человеку. Но ни в коем случае не превращайте это в правило. Такая "понимающая" позиция позволит не принимать на свой счёт раздражение, как бы отстраниться, а партнёру даст возможность выпустить пар. Если же вы сами оказались не на высоте и принесли своё настроение в дом, после "разрядки" обязательно извинитесь перед тем, на кого пал ваш гнев, и объясните, с чем он связан на самом деле.

- Есть прекрасный метод борьбы с напряжением, абсолютно безобидный для окружающих. Любые активные физические упражнения снимают внутреннее напряжение ничуть не хуже, чем крик. Займитесь вместо скандала физкультурой.

- Бывает и так (довольно часто), что человеку просто выгодно быть раздражительным. Речь идёт о тех случаях, когда один из супругов хочет чего-либо избежать, но в открытую по разным причинам признаться не хочет или боится. А поссорившись, имеет повод не выполнять обязанность или просьбу. В таких случаях поможет только серьёзный разговор да желание решать проблемы, неизбежно возникающие в семейной жизни.

- Увы, иногда раздражительность является и следствием определённых заболеваний. Если вы заметите, что ваше раздражение, несмотря на все усилия, не поддаётся управлению, идите к врачу!

## Курсы валют у банках г. Пружаны:



| | купля | продаж |
|---|---|---|
| ***БелБізнесБанк*** | | |
| $ ЗША | 1229 | 1238 |
| DM | 560 | 582 |
| RUR | 42 | 44 |
| ***Аграпрамбанк*** | | |
| $ ЗША | 1228 | 1238 |
| DM | 570 | 588 |
| RUR | 41 | 43 |
| ***Беларусбанк*** | | |
| $ ЗША | 1228 | 1238 |
| DM | 570 | 590 |
| RUR | 41 | 43 |

## Кошт паліва на гарадскіх АЗС:



| | |
|---|---|
| **АЗС "Пружаны"** | |
| Аі-95 | 664 |
| Аі-92 | 584 |
| Аі-76 | 470 |
| ДП | 425 (л) |
| **АЗС «Салют»** | |
| Аі-95 | няма |
| Аі-92 | 580 |
| Аі-76 | 470 |
| ДП | 423 |



## КРИМИНАЛЬНАЯ ХРОНИКА

8 января в дом жительницы д. Юндилы зашли двое неизвестных молодых людей, которые потребовали у хозяев отдать им швейную машинку "Зингер" (цена швейных машинок "Зингер" теперь очень высока). Но машинка оказалась не та, которая им была надо. Что ж, решили поживиться хоть чем-нибудь. Взяли пакет с документами и небольшой суммой денег. Преступники - жители Слонима задержаны. По данному факту возбуждено уголовное дело.

Крадут велосипеды. В Пружанах, 3 января с улицы Я. Купалы был похищен велосипед. Преступника удалось задержать. 15 января в г. п. Шерешево, с ул. Юбилейной, из подвала дома гражданки С. был похищен дорожный велосипед. Также были похищены: велосипед в д. Бакуны и велосипед в д. Линово.

22 января в Пружанский РОВД поступило отношение из колхоза "Победа" о том, что на ферме в д. Передельск был похищен сварочный аппарат.

***По данным фактам проводится проверка.***

На 23 января этого года, за нарушение статьи 159 Кодекса РБ об административных правонарушениях, о появлении в пьяном виде в общественных местах, было задержано и привлечено к ответственности - 112 человек, а за мелкое хулиганство - 72 человека.

Не перестаёт течь и самогонная речка. В этом году было проведено шесть целенаправленных рейдов в лесные массивы и населённые пункты Пружанского района на предмет выявления фактов самогоноварения. Было уничтожено четыре стационарных самогонных аппаратов, семь тонн браги. Так, на хуторе Ляхи был уничтожен самогонный аппарат, который находился в помещении строящегося дома. В лесном массиве, в районе д. Вильяново был задержан житель д. Н. Засимовичи, который занимался ремонтом самогонного аппарата с помощью газосварки.

### ДЛЯ АБИТУРИЕНТОВ

*Начался отбор кандидатов для направления в образовательные учреждения МВД на очное обучение. К будущим абитуриентам имеются определённые требования: на учёбу могут быть направлены лица гражданской молодёжи, характеризующиеся положительно по месту работы, учёбы и месту жительства; имеющие средний балл аттестата не ниже - 4,5; а также имеющие рост не ниже 170 см (для мужчин), 165 см (для женщин), хорошие физические данные. Обращаться: ул. Советская, 36, к. 26.*

# Пружаны наведала замежная дэлегацыя





Па запрашэнню ПГІРА "Яравіт" Пружаны наведала замежная дэлегацыя. У яе складзе былі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый Югаславіі, Сербіі, Харватыі, Польшчы, Украіны.

Пасля кароткага знаёмства з прадстаўнікамі Пружанскай грамадскасці, госці адказалі на іх шматлікія пытанні. Паколькі значная частка ўдзельнікаў дэлегацыі прадстаўляла Югаславію, якой нядаўна ўдалося пазбавіцца дыктатарскага рэжыму шляхам дэмакратычных выбараў, то неўзабаве галоўнай тэмай гутаркі сталі набліжаючыяся прэзідэнскія выбары ў нашай рэспубліцы.

Госці, а гэта былі пераважна лідэры ўплывовых няўрадавых дэмакратычных арганізацый, распавядалі, якім быў іх удзел у арганізацыі прэзідэнскіх выбараў, якім чынам праходзіла агітацыйная кампанія, працэс назірання за выбарамі. Паколькі палітычная сітуацыя ў Югаславіі да выбараў прэзідэнта Каштуніцы вельмі нагадвала беларускую, то і вопыт, што набылі няўрадавыя арганізацыі Югаславіі ў барацьбе за перамены можа быць з поспехам выкарыстаны і ў нас.

Прадстаўнікі пружанскай грамадскасці былі прыемна ўраджаны тым, што ўсе маладыя людзі выдатна валодалі ангельскай мовай.

Пасля афіцыйнай сустрэчы, якая доўжылася больш за дзве гадзіны госці абмяняліся з прысутнымі адрасамі і паабяцалі ў далейшым падтрымліваць цесныя сувязі і кантакты.

## НАПАДЕНИЕ НА ШКОЛЬНИЦУ

22 января около девяти часов вечера ученица Пружанской вечерней школы возвращалась домой после занятий в школе. Около её дома по улице Ширмы, что возле детско-юношеской спортивной школы, на нее напал неизвестный, накинув ей на голову ее капюшон, повалил на землю и стал душить. На отчаянные крики девушки никто не отозвался. Не в силах более сопротивляться, она притворилась мертвой, чем спугнула нападавшего, который убежал за угол дома и наблюдал за девушкой. В это время она вскочила и вбежала в ближайший подъезд дома, где позвала на помощь мужчину, который проводил её домой. Родители девушки вызвали милицию, которая прибыла... на следующий день.

*"ГП"*

## СТВОРАНЫ ЛЕКАРСКІ САЮЗ

15 студзеня ў Магілёве было зарэгістраванае новае грамадзкае аб'яднанне - Лекарскі саюз. Старшынёй Саюзу прызначаны Сяргей Кунцэвіч. Стваральнікамі гэтай арганізацыі сталі каля 20 чалавек - супрацоўнікаў гарадскіх шпіталяў і паліклінікаў. Усе сябры новастворанага аб'яднання - высокапрафесійныя спецыялісты, у тым ліку загадчыкі аддзяленняў. Мэты лекарскага саюзу -прапаганда здаровага ладу жыцця, наладжванне ўмоваў для прафесійнай адукацыі і самаадукацыі, садзейнічанне прафесійнай рэалізацыі медыкаў. Для выканання гэтых мэтаў на базе арганізацыі будуць ладзіцца канферэнцыі для лекараў. З лютага спецыялісты Лекарскага саюзу пачнуць праводзіць заняткі для падлеткаў па фізыялёгіі, гігіене, прадухіленьні хваробаў і навучанні першай медычнай дапамозе.

## ТАЛАКОЙ ПАБУДАВАЛІ МОСТ

У Лунінецкім раёне жыхары талакой пабудавалі новы мост праз раку Цна, які злучыў вёску Цна з хутарам Лондан. Пры гэтым ніякіх бюджэтных сродкаў на пабудову маста выдзелена не было. На будоўлі працавала ўсё мужчынскае насельніцтва вёскі. Заадно, увайшоўшы ў азарт, расчысцілі мясцовыя могілкі. Спілаваныя на іх дрэвы пайшлі на дошкі.

# Забыты партызан

***Пра гэтага чалавека і ягоны трагічны лёс я ведаў даўно. Аднак ягонае імя і сапраўднае прозвішча стала мне вядома толькі напрыканцы 1998-га года.***

Эміграцыйная газета "Незалежная Беларусь" (яна выдавалася ў Заходняй Нямеччыне) у № 8 (14) за верасень-кастрычнік 1953 г. надрукавала некралог: "Старшы лейтэнант партызанскіх аддзелаў, сябра БВР і ЗБП Сьв. Памяці Сымон Міхальчук загінуў геараічнай сьмерцю ў барацьбе з бальшавіцкім акупантам Беларусі дня 28 сакавіка 1953 году ў лясох каля Запрудаў у раёне Кобрына, у веку 38 гадоў...". І ўсё. Пра тое, як трапіў Сымон Міхальчук на Бацькаўшчыну і пры якіх абставінах ён загінуў, нічога не паведамлялася.

Пра гісторыю гібелі гэтага партызана я ведаў раней, таксама з эміграцыйных крыніц. Толькі ў іх чамусьці Міхальчука называлі Міхалюком. Паведамлялася там, што ў 1952 годзе эміграцыйная вайсковая арганізацыя "Беларускі Вызвольны Рух", у супрацоўніцтве з англійскімі спецслужбамі, выслала нелегальна на Беларусь дзве групы вайскоўцаў-беларусаў. Адна група мела заданне наладзіць сувязь з антыбальшавіцкай партызанкай, што і зрабіла ды праз Польшчу вярнулася ў Англію. Другая група павінна была аб'яднаць партызанскія групы, каб актыўна змагацца з савецкай уладай. Да другой групы і належаў Міхальчук. Але неўзабаве "у баі з войскамі НКВД на Палессі яны (партызаны - С. Ё.) былі падчас свайго рэйду знішчаныя". У іншай публікацыі ўдакладнялася, што апошні бой антыбальшавіцкіх партызанаў адбыўся на Кобрыншчыне. Цяпер жа мы даведаліся, што адбылося гэта каля вёскі Запруды...

Праўдападобна, Міхальчук апынуўся на Бацькаўшчыне ў 1951 годзе. Да гэтага ён жыў у Заходняй Нямеччыне або ў Англіі, быў сябрам Згуртавання Беларускіх Патрыётаў, якім кіраваў ураджэнец Пружаншчыны, пісьменнік і вядзвец Ягор Попка (Папко, Юры Жывіца). Дзякуючы Жывіцы, дакладней аднаму з ягоных твораў, стала вядома, што Сымон Міхальчук падчас нямецкай акупацыі працаваў у Шарашова на Пружаншчыне, там ён узначальваў мясцовы Беларускі камітэт. Магчыма, Міхальчук быў родам з тых месц?..

Верагодна, у 1944-ым ён выехаў на Захад, а праз 7 гадоў вярнуўся. Вярнуўся, каб змагацца за незалежную Беларусь са зброяй у руках. У адрозненне ад Янкі Філістовіча, які дзейнічаў на Маладзечаншчыне, Міхальчук меў вайсковы і жыццёвы досвед. Таму ён пратрымаўся на нелегальным становішчы даўжэй. Больш таго, Сымон Міхальчук арганізаваў партызанскі аддзел, які распачаў сваю актыўную дзейнасць вясной 1953-га. Ужо памёр дыктатар Сталін, ужо быў расстраляны Філістовіч, а беларускія партызаны не здаваліся.

Пакуль вядома толькі пра адну акцыю, якую правёў аддзел Міхальчука. Праўдападобна, яна была прымеркавана да 25 Сакавіка - свята незалежнасці Беларусі. Газета "Беларускі голас" (Таронта) у лютым 1954 г. змясціла артыкул "Збройная барацьба на Беларусі", у якім згадала пра напад беларускіх партызанаў на савецкі транспарт каля Кобрына. У адказ на гэтую акцыю бальшавікі правадзілі аблавы і рэпрэсіі. Праўдападобна, аддзел Міхальчука на трэці дзень пасля акцыі трапіў у аблогу. У баі яго камандзір і загінуў...

Аднак не ўвесь аддзел Міхальчука быў знішчаны чэкістамі. Справа ў тым, што хтосьці з партызанаў, праўдападобна, дабраўся да Заходняй Нямеччыны. Інакш, як кіраўніцтва БВР даведалася б дакладную дату і месца гібелі свайго афіцэра ўжо восенню 1953-га? Праўда, вестку гэтую партызаны маглі пасланць і праз радыёперадатчык...

*Магчыма, хтосьці з жыхароў Пружаншчыны штосьці ведае пра апісаныя падзеі? Тая ж вёска Запруды знаходзіцца недалёка ад мяжы Пружанскага раёна. Можа нейкі старажыл падкажа месца апошняга бою забытага беларускага партызана Сымона Міхальчука?*

**Сяргей Ёрш, г. Слонім.**

**Ганарар ахвярую ў фонд рэдакцыі.**



# ЕСТЬ ЛИ У ВАС ДОМА небольшой "Чернобыль"?

В результате исследований под заказ в 1993 году в гор. Речица Гомельской области в полном объеме был изучен выход радона и обнаружен так называемый речицкий треугольник, где на трех городских улицах выход радона особенно велик. Показатель детской заболеваемости на этом участке тогда составил 1285-1393 на 1000 детей, а во взятых для сравнения "чистых" районах города в 3 раза меньше!

О том, что в земной коре существуют глубинные трещины и разломы, знают все, кто учил географию. И о том, что через эти разломы выделяются газы, помнят многие. Среди этих газов преобладает радон, он то и может быть причиной наших заболеваний (ведь все лишнее вредно).

До 1990 года эта тема была закрытой. Оно и понятно - радон - это источник радиации.

Представляете, возле вашего дома маленький "Чернобыль".

На Западе и в США в местах, где выявлен радон, государством запрещено строительство жилья. У нас пока разговоры.

Где-то в 1993 году газета "Звязда" печатала карту Беларуси, где нанесены разломы земной коры. Эту карту я держала в руках. Еще помню, что в тексте и карте отмечалось, что Игналинская, Чернобыльская и Смоленская АЭС находятся в геопатогенных зонах.

Ведь были и в Беларуси землетрясения. Последнее в 1908 году на границе Литвы и Беларуси силой 7-8 баллов. Не исключены повторы.

Получается, что и Беларусь - край лесов и болот, представляет собой с одной стороны Чернобыль, с другой - геопатогенные зоны. Раньше люди не селились вблизи болот, знали, что это плохо. А затем болота осушили, но эти зоны ведь остались. Видимо, поэтому люди там и болеют больше. Возможно, причина все тот же радон.

Есть такая статистика. Витебщина - как будто чистая от радионуклидов. А онкологические заболевания там стабильно превышают среднереспубликанский уровень. Почему?

Медики считают, что причина в радоне. Жаль, сведений по его замеру нет, или они пока не обнародованы.

Я позвонила в санаторий "Радон", что возле г. Дятлово Гродненской области, и попросила совета, как защититься в такой ситуации.

Мне посоветовали так: для защиты от радона сооружать саркофаги не надо. Достаточно пол в подвале жилых домов залить слоем бетона толщиной 10 см. Обязательно должна быть вентиляция. А жители первых этажей должны заделать все щели и зазоры под плинтусами слоями масляной краски. И не забывать ежедневно проветривать комнаты всех этажей, и даже два раза в день. После ночи и перед сном.

И еще. Говорят, что в самом центре Минска Комаровский рынок расположен на бывшем болоте, следовательно, выброс радона там не исключен. Подтверждается и такой факт - выброс радона непостоянен, но в отдельные годы очень высок.

Кстати, есть заводской индикатор "Новинка", им можно выявить эти геопатические зоны. Об этом мне тоже сказали в дятловском "Радоне".

***Людмила Семашко-Савицкая.***

## Конкурс для школьнікаў

Абвяшчаецца Рэспубліканскі літаратурны конкурс сярод школьнікаў "Паркі і фальваркі роднага краю". Конкурс адбываецца ў трох намінацыях: эсэ, сачыненне на тэму "Як я разумею афарызм Вальтэра "Трэба апрацоўваць наш сад"; верш (тэматыка вольная. Пераможцы конкурсу будуць запрошаны на святкаванне "Дня зямлі", якое адбудзецца ў Менску ў красавіку 2001 г., атрымаюць каштоўныя ўзнагароды і возьмуць удзел у літаратурным майстар-класе.

*Творы і інфармацыю пра аўтараў можна дасылаць да 1 сакавіка на адрас: 220023, Мінск, вул. Макаёнка 3, РЭЦВ, "Дзень зямлі. Літаратурны конкурс".*

**Кантактны тэлефон: (017)2277954**

## ЭТО ИНТЕРЕСНО!

# Лазерные операции на глазах небезопасны

Английские офтальмологи предупреждают о риске серьезных осложнений при проведении лазерных хирургических операций для исправления близорукости, сообщает ВВС.

Профессор Джон Маршал из лондонского госпиталя Св. Томаса сообщил о многих случаях тяжелых осложнений, связанных с лазерной глазной хирургией. Иногда эти осложнения приводили к необходимости пересадки роговицы. Он заявил, что больные должны быть хорошо информированы о возможном риске, а для оценки безопасности нового метода лечения (так называемого метода Lasik) требуются дальнейшие исследования.

Представитель Королевского офтальмологического общества Дэвид О'Брат считает, что риск осложнений после новой операции, как и в случае всех новых методов, до конца не изучен, но хирурги, как правило, сообщают больным о возможных осложнениях.

Новый метод лечения основан на удалении с помощью лазера слоя роговицы толщиной не менее одной трети всей роговицы. Этот способ стал очень популярным в последние годы. Так, только в 1999 году в США выполнено более миллиона таких процедур. Метод рекламируют как "безболезненное" лечение, которое немедленно восстанавливает зрение.

# МОЖЕМ ПОСОВЕТОВАТЬ...

Красивые ноги всегда привлекают внимание мужчин. Но что делать, если не удается избавиться от неприятного запаха, исходящего от них? Ведь это не только неприлично, но и влияет на наше здоровье. Постоянно влажные ноги - источник простуды и насморка, а кроме этого - причина незаживающих мозолей.

В таких случаях может помочь регулярный уход за ногами, например, ножные ванны со слабым раствором марганцовки. Большую помощь могут оказать и ванночки с лекарственными травами, такими как шалфей, полевой хвощ, плоды шиповника, прекрасно для этого подходит и кожура граната.

После ванночки насухо разотрите ноги махровым полотенцем. Промежутки между пальцами протрите тройным одеколоном, наполовину разбавленным водой. Когда одеколон испарится, эти места нужно смазать кремом, содержащим ланолин и проложить пространство между пальцами марлевыми прокладками, пропитанными масляными ватаминами А и Е, либо аналогичными кремами.

Если вас замучили угри, ни в коем случае не занимайтесь самолечением, это очень опасно. Треугольник, образованный кончиком носа и подбородком, в медицине называется "треугольником смерти", выдавливания прыщей в этой зоне может закончиться инфекцией мозга. Вообще на лице лучше всего ничего не давить, вы, возможно, не один раз замечали, что если выдавить один прыщик, на его месте образуются два.

Поэтому, лечить угри лучше с помощью специалиста - косметолога. Он грамотно подберет для вас ту косметику, которая вам больше всего подходит.

Угри - признак либо зашлакованности организма, либо гормональных неполадок, нарушения обмена веществ.

Чаще всего угри бывают в юном возрасте, когда организм интенсивно растет, идет гормональная перестройка.

В такое время растущему организму необходимы регулярные физические нагрузки, свежий воздух, хороший сон при открытой форточке. Исключается острая, соленая, кислая пища. Попробуйте в течение трех недель ежедневно пить по одному стакану жидких дрожжей, затем через три недели повторить (возьмите 10 гр. дрожжей, накрошите в стакан, залейте на 3\4 теплой водой, добавьте одну чайную ложку сахара, размешайте, поставьте в теплое место, через час размешайте, доведите до кипения и, чуть остудив, выпейте).

## КРОССВОРД

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:**

3. Высочайшая вершина в Западной Европе. 7. Коралловый хоровод. 9. Страна, где обитает гривастый волк. 10. Независимый оценщик состояния бухгалтерского учета. 11. Бор стоматолога как он есть. 13. Безголовый водитель. 15. Какой город открыл Генрих Шлиман? 16. Праведная зона отдыха. 17. "Диориссимо" как нечто благоухающее. 19. Помощник капитана Христофора Врунгеля. 20. Загадочно улыбающийся шедевр. 22. Теплая шапка. 23. Динамометр на русский лад. 25. Грузинская буква. 26. Обрусевший скульптор. 27. Просьба избирателей к своему депутату.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:**

1. Право взимания налогов из старинной жизни. 2. Средневековое искусство умножать тайну. 4. Морской рак. 5. Криминальные друзья-товарищи. 6. Культовая группа Бориса Гребенщикова. 8. Депрессия с точностью до наоборот. 9. Преобразователь продуктов. 12. Подопечные пастуха. 13. Мясо кеты. 14. Сочинитель "Философических писем". 17. Склонность облегчать, где можно, всякую жизнь. 18. Лакская народная мудрость гласит: "Орла без Родины даже ... не замечает". 21. Где обычно устраивает свое гнездо сова? 23. Покой, который ремонтирует человека. 24. Существо со съеденной душой.

Ответы к газете №2(18) ПО ГОРИЗОНТАЛИ: 3. Эскулап. 7. Пегас. 9. Четверка. 10. "Адвокат". 11. Ярость. 12. Брюллов. 14. Шифр. 17. Венеция. 18. Злодей. 20. Безумие. 21. Летчик. 23. Казнокрад. 24. Дока.ПО ВЕРТИКАЛИ: 1. Бездарь. 2. Заросли. 4. Свет. 5. Утварь. 6. Агрессия. 8. Карьера. 9. Чародей. 13. Деревня. 14. Шипучка. 15. "Взгляд". 16. Восток. 17. Веник. 19. Лихач. 22. Кан.

## ВІНШАВАННІ

*Дорогие и любимые мамочка и папочка Татьяна Павловна и Геннадий Петрович СЁМКИ*
*От всей души поздравляем Вас с 25 летием совместной жизни!*

*За вашу теплоту, заботу*
*Хотим мы вас благодарить.*
*Собрать бы все цветы на свете*
*И вам, родные, подарить!*
*И пожелать здоровья, счастья,*
*Побольше радости, тепла.*
*Чтоб в жизни небыло ненастья,*
*И небежали так года.*

*С уважением и любовью дочь, сын, зять и внуки.*

*С днём рождения поздравляет Лосеву Алёну сестра и желает:*
*Солнышком ясным свети, не унывай, не грусти.*
*И пусть улыбка всегда на лице, ведь к лицу она так же тебе...*
*Храни тебя Бог, родная моя, от всякого зла...*

## КРЫША ПОЕХАЛА!

Мой дядя самых честных правил,
Иных же оставлял как есть.

Фирменное блюдо - колбасод с бутербрregister.

- Миша, не ходи больше на дискотеку - оглохнешь!
- Спасибо мама, я уже покушал.

Не родись красивой, а родись мужчиной!

Прекрасный пол - дубовый паркет ...

Пришел, наехал и ушел.

- «Делми», наши мальчики собрались на рыбалку. Что мы им приготовим?
- Папа, папа, мама опять с маргарином разговаривает...

...правительству нужен новый толчок... (Б.Н. Ельцин)

Зачет. Студент не готов. Подходит к профессору и говорит: - Профессор у меня ангина. Можно я пойду домой?
- Конечно!

В этот же день после зачета профессор встречает студента с прекрасной длинноногой девушкой.

Профессор подзывает к себе студента и говорит:
- Дорогой мой, Вам с такой Ангиной надо в кровати лежать, а не гулять по улице.

Идёт мужик домой пьяный и незнает как сделать, чтобы жена на него не кричала. Решил, приду и буду читать книгу она не заметит, что я пьяный. Приходит, читает. Заходит жена -Ты что делаешь? -Книгу читаю. -Идиот! Закрой чемодан и иди спать.

Мама будит Вовочку:
- Вовочка, вставай, пора в школу!
- Да ну ее! Опять Петров на перемене драться будет.
- Вовочка, пора.
- Не пойду! Опять Птицын тряпкой для доски кидаться будет.
- Вовочка, ты опоздаешь!
- Нет, не пойду! Опять Иванов из рогатки стрелять будет.
- Вовочка, как же ты не пойдешь, ты ведь директор школы?!

WWW.LONER.SP.RU

## АБ'ЯВЫ

### ПРОДАМ

Дом шлакобетонный в Б.Яковичах №76. Тел. 2-52-76.

***

Дом в деревне с хозпостройками, телевизор ч/б. Тел. 2-24-91.

***

AUDI - 80, 83г. Тел. 7-24-06.

***

W-Jetta- 1986 г.-1,6 D, 1 месяц в РБ - красный. Люк, фаркоп.1700 у.е. Дача в Залесье.

Покрышки 175/70-13, 4 шт. Тел. 6-34-34.

***

Запчасти на Форд-Эскорт, 89г.в. Тэл. 2-06-71.

***

Стиральную машину-автомат, пылесос, всё б/у из Германии. Тел. 7-18-05.

***

Москвич- 2140 на запчасти, двигатель, задний мост, каробка передач. Все в хорошем состоянии. Тел. 59-1-90

***

AUDI -100 81г.в. 650 у.а., ЗІД - 100 у.а. Тэл. 79-1-76.

***

Запчасти на Форд-Эскорт, 89 г.в. Тел. 63-2-93, после 1800

***

VW-Jetta II, 1987 г.в.,1,6Д, 1500 у.а. Мягкий уголок .Тэл.2-07-59

***

ВАЗ-2105, 1990 г. 850$. Тэл.2-15-56

***

Гараж недостроенный по ул.Макаренко, недорого. Тэл. 2-45-35.

***

Кирпич красный, перемычки: Б-22; Б-25; БУ-22; БУ-24. Блоки: ФБС-24-4-6 -5 шт; ФБС-24-5-6, б/у-5 шт. Тэл.2-05-47.

***

Электронную записную книжку Citizen. Тел.2-12-93

***

### КУПЛЮ

Шкуры телячьи и коровьи (солёные или свежие).Тел. 7-24-42, с18⁰⁰ до 21⁰⁰

***

Шины грузовые, тракторные. Запчасти к МТЗ. Тел.7-21-36 с 8³⁰ до 17³⁰

### СНИМУ

Гараж в районе ул. Заводской, Октябрьской, Строительной. Тел. 7-19-30.



**КУПОН ДЛЯ БЯСПЛАТНЫХ ПРЫВАТНЫХ АБ'ЯВАЎ**
(сапраўдны на працягу двух тыдняў пасля выхаду газеты)

*прадам
*куплю
*мяняю
*паслугі
*рознае
(патрэбнае абвесці)

Запоўніце купон разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі: 225140, г.Пружаны, Завадская,16, або перадайце у кіёскі "Саюздруку"

Звесткі не для друку

Прозвішча імя і імя па бацьку

Хатні адрас і тэлефон

Голас Пружаны
Рэг. № 1323 ад 16.07.1999 г.
Заснавальнік і рэдактар Язэп Машкала

Адрас рэдакцыі: 225140, г. Пружаны, вул.Завадская, 16
Телефон: (01632) 2-00-40
E-mail: golasp@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 24 снежня 2000 года.

Час падпісання 20:00

Надрукавана ў ГАУПП "Слонімская друкарня", г.Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Наклад 1000 экз. Заказ № 335